

*“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*

# ШКЛОЎ-*інфо*

**№17** *(79) лістапад 2013*

*ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА*

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*


## Навіны краіны

**Высокорентабельные белорусские госпредприятия** перечислят в целевой бюджетный фонд национального развития свыше 210 млрд рублей по результатам работы за I полугодие текущего года. Это предусмотрено постановлением Совета министров № 900 от 11 октября 2013 года. В перечень вошли 12 компаний. Самые большие отчисления согласно постановлению Совмина, опубликованному порталом pravo.by, предстоит сделать “Гомельтранснефть Дружба” (92,2 млрд.руб), “Производственному объединению “Белоруснефть” (51,2 млрд), “Гродненской табачной фабрике “Неман” (39, млрд) и “Гомельскому вагоностроительному заводу” (25,4 млрд).

**В Шклове очередной коррупционный скандал.** Начальник участка одного из филиалов ОАО “Лавсанстрой” и директор могилевского коммерческого строительного предприятия подозреваются в хищении более Br202 млн. в ходе выполнения строительно-монтажных работ при проведении модернизации ОАО “Бумажная фабрика “Спартак”. Прокуратурой Могилевской области в отношении них возбуждено уголовное дело за хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное в особо крупном размере. А это от 5 до 12 лет лишения свободы.

## ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ

***2 лістапада на Беларусі каталікі адзначаюць дзень памяці памерлых. Аднак спадчына Дзядоў, як яшчэ называюць сённяшні дзень, выходзіць далёка за межы адной канфесіі. Звычайна ў гэты дзень згадваюць родных ды блізкіх, якіх ужо няма з намі. З паганскіх часоў на мяжы кастрычніка і лістапада беларусы прыходзяць да сваіх продкаў.***

*УЛАДЗІМІР АРЛОЎ, ПІСЬМЕННІК:* “Дзяды – гэта той дзень, калі мы найбольш блізка адчуваем сувязь з продкамі. Дзяды – святы дзень для беларусаў незалежна ад іхнай канфесіі. У праваслаўных ёсць Дзмітраўскія Дзяды, у каталікоў – Задушны дзень”.

*ТАДЭВУШ КАНДРУСЕВІЧ, МІТРАПАЛІТ:* “У гэты дзень і на працягу ўсёй актавы малітвы за памерлых можна атрымаць адпушчэнне грахоў. Гэта накшталт ключа, які нам, жывым, Касцёл дае ў рукі, каб мы маглі адкрыць для нашых памерлых дзверы ў вечнае шчасце”.

У 20-м стагоддзі народы былой Расійскай імперыі перажылі вельмі вялікія трагедыі. У тым ліку пачатак 30-х гадоў увайшоў у гісторыю, як перыяд “вялікага тэрору”. Безумоўна, не мінуў гэты лёс і Шклоўшчыну. Архіўныя крыніцы згадваюць, што толькі за студзень – сакавік 1930 года ў Шклоўскім раёне да высялення прызначалася ў агульнай колькасці 504 чалавекі так званых “кулакоў і падкулачнікаў”.

Гвалтоўнае стварэнне камун і саўгасаў, рабаўніцтва, чырвоны тэрор, нацыянальны прыгнёт прымушалі сялян глядзець у бок лесу, уздымаць хвалю паўстанняў.

Як вынік, дакументы паведамляюць пра шматлікія выпадкі ўзброенага супраціву ва Усходняй Беларусі, у тым ліку ў асобных вёсках Шклоўскага раёна. У пачатку студзеня 1930 года невядомымі было зроблена два стрэлы ў настаўніка Аўчыннікава, які вяртаўся да хаты ў вёску Княжыцы пасля антырэлігійнага даклада. 12 лютага гэтага года ў вёсцы Гарадзец стрэлам паранены прадстаўнік Віцебскай рабочай брыгады, які быў накіраваны ў Магілёўскую акругу.

Гісторык Ігар Кузняцоў, які даследваў гэты вельмі складаны час, у прадмове сваёй кнігі “Засекреченные трагедии советской истории” піша: “…многие десятилетия команду «расстрелять» произносили не задумываясь, безо всякой жалости и сострадания, не впадая в отчаяние от того, что на планете людей прерывалась еще одна уникальная жизнь”. Вось толькі некалькі пачутых расказаў пра гэты жахлівы час у Шклове.

З успамінаў Сямёна Васільявіча Тараканава, жыхара вёскі Рыжкавічы Шклоўскага раёна: “У перадваенны час я працаваў на папяровай фабрыцы “Спартак”. Прадпрыемства дзейнічала ў тры змены і калі прыходзіла чарга

работаць у начную, людзі з жахам адпраўляліся на фабрыку. Менавіта ў гэты час сутак мясцовыя супрацоўнікі НКУС прызвычаіліся наведваць прадпрыемства і праводзіць арышты. У адну з такіх змен на маіх вачах адбыўся вельмі жудасны выпадак. Майстар змены, убачаўшы, што да яго накіроўваюцца супрацоўнікі з "чорнага ворана", пакончыў жыццё самагубствам. Ён кінуўся ў агрэгат для драблення папяровай сыравіны. Хапіла некалькі хвілін і цела чалавека змалола на дробныя кавалачкі. Майстар быў выдатны працаўнік і карыстаўся павагай сярод рабочых".

Сямён Васільявіч успамінаў і асабісты выпадак. Вёска Рыжкавічы, як і горад Шклоў, знаходзіцца непасрэдна на беразе ракі Днепр. Лоўля рыбы на рацэ заўсёды была дадатковай крыніцай харчавання для мясцовых жыхароў у цяжкія перадваенныя гады. Таму не толькі падлеткі, а і дарослыя мужчыны выкарыстоўвалі кожную магчымасць, каб назапасіць рыбы. І вось аднойчы, захапіўшыся гэтай справай, аўтар нават забыўся аб неабходнасці збірацца на работу. Калі ўспомніў, дык да пачатку змены заставалася зусім мала часу. Каб своечасова дабрацца да прадпрыемства, ён вымушаны быў хутка бегчы. На працягу ўсяго шляху, а гэта каля чатырох кіламетраў, у галаве гучала толькі адна думка: "Калі спазнюся – арыштуюць". З апошніх сіл, амаль за хвіліну да пачатку працы, Сямён Васільявіч дабег да фабрычнай прахадной, знясіляна паваліўся і страціў прытомнасць. Арышта ўдалося пазбегнуць.

Адначасова ўлады пачынаюць забараняць рэлігійныя святы, праследаваць святароў і рэлігійных актывістаў. З успамінаў Альдоны Баніфацыяўны Аляхновіч, жыхаркі вёскі Рыжкавічы: "Мой родны дзядзя Ярашэвіч Станіслаў Антонавіч скончыў духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбурзе. Працаваў у Шклоўскім касцёле, потым у іншых парафіях. Карыстаўся вялікай павагай у вернікаў. Калі пачаліся рэпрэсіі, мы вельмі хваляваліся за яго. Станіслаў Антонавіч разумеў, што яго павінны арыштаваць, і папярэдзіў нас, сваіх родных, каб не падыходзілі прылюдна да яго. Сам ён па-ранейшаму выконваў свой святарскі абавязак, як мог падтрымліваў вернікаў і толькі сваім поглядам у час набажэнства падтрымліваў сувязь з намі". Паводле сведчання жыхароў Мінска, Станіслаў Ярашэвіч быў апошні каталіцкі святар, які працаваў у Мінску перад другой сусветнай вайной. Арыштаваны ў 1937 годзе разам з іншымі святарамі. Праўдападобна расстраляны ў Мінску ў гэтым жа годзе.

Далей Альдона Баніфацыяўна ўспаміна: "У тыя жудасныя часы на маіх вачах быў арыштаваны мой дзядзя Аляхновіч Калікст Францавіч, які працаваў урачом у горадзе Орша. Таксама падчас рэпрэсій загінуў мой бацька Аляхновіч Баніфацый Францавіч, які працаваў старшынёй калгаса, і другі мой дзядзя Ярашэвіч Уладзіслаў Антонавіч.

Памяць пра тыя часы нагадвае і вялізны крыж на ўскрайку леса непадалёк ад дарогі на вёску Барыскавічы. Як пісаў былы журналіст Аляксандр Шчарбак: "Здесь, под крестом, покоятся души шести братьев Соловьёвых. Тела их растерзаны, уничтожены большевиками. Место захоронения остаётся неизвестным". Аўтар артыкула распавядае, што напачатку 1929 года ў далёкай Пярмі загінулі браты Міхаіл, Антон і Мікалай, а праз тры гады ў Магілёве былі расстраляны браты Пётр, Аляксандр і Сяргей. Рэпрэсійны махавік знішчыў вялізную сям'ю, праз пэўны час знік і хутар Хадзевічы, дзе пражывала працавітая сям'я. І такія расказы пра трагічныя гады сталінскіх рэпрэлій можна пачуць шмат. Пра гэта забываць нельга.

**Успомні, Госпадзе, заснуўшых у надзеі ўваскрасення і жыцця вечнага братоў і сясцёр нашых... Супакой душы іхнія ў месцы спакойным, дзе няма ні болю, ні суму, ні плачу, дзе зззяе вечнае святло Аблічча Твайго і ўчыні ім, Госпадзе, вечную памяць. Амінь.**

*Алесь Петрусевіч*

## СІТУАЦЫЯ Ў СФЕРЫ ЖКГ БЕЛАРУСІ, ПРАПАНОВЫ ПА РЭФАРМАВАННЮ

У цяперашні час каля 85% жыллёвага фонду краіны знаходзіцца ў прыватнай уласнасці. Дзяржава і надалей прымае ўсебаковыя захады па пашырэнню гэтых паказчыкаў, бо ідэя па пераводу непрыватызаванага жылля ў разрад камерцыйнага падштурхоўвае грамадзян Беларусі да прыватызацыі сваіх кватэр.

Практычна ўсе шматкватэрныя жылыя дамы маюць статус сумесных домаўладанняў (наяўнасць двух і больш уласнікаў) і знаходзяцца на балансах мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Дзяржаўныя ЖЭУ трымаюць на сваіх балансах 97% жылых дамоў, каля 3% займаюць іншыя формы кіравання – ТУ, КІЗы, ЖБК і інш. І зусім невялікая частка жылых дамоў знаходзяцца ў абслугоўванні прыватнымі кампаніямі. Такіх кампаній у краіне налічваецца ўсяго толькі

каля двух дзесяткаў.

Згодна з Законам РБ ад 8 студзеня 1998 года "Аб сумесным домаўладанні" ў грамадзян фармальна з'явілась магчымасць выбара формы ўпраўлення комплексам нерухомасці праз стварэнне таварыстваў уласнікаў або іншых метадаў упраўлення. Знешне падавалася, што Урад краіны прымае захады па пераводу ЖКГ Беларусі на рынкавыя рэйкі. Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №943 ад 14 ліпеня 2003 году "**Аб Канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да 2015 года**" заяўляла аб сур'ёзнасці намераў беларускага кіраўніцтва. Канцэпцыя прадугледжвала давядзенне долі жыллёвага фонду, абслугоўваемага на конкурснай аснове, да 100% шляхам стварэння прыватных арганізацый у большасці з формай упраўлення шматкватэрнымі жылымі дамамі – таварыствамі ўласнікаў.

Аднак форма ўпраўлення нерухомасцю праз стварэнне таварыстваў уласнікаў адпаведнай падтрымкі ў насельніцтва нашай краіны не атрымала, хоць знешне выглядае, што бар'ераў для яе развіцця з прававога пункту гледжання няма.

Асноўнымі прычынамі кансервавання сітуацыі ў сферы ЖКГ сталіся баязнь чынавенства згубіць "насіджаныя" працоўныя месцы ў выпадку скарачэння кіруючага апарату, усялякія перашкоды рэформам з іх боку, груваcткасць кіравання, высокія эксплуатацыйныя расходы і ўзровень карупцыі і крадзяжоў, незацікаўленасць кіруючых кадраў у паніжэнні сабекошту прадукцыі сваіх прадпрыемстваў і павышэнні эфектыўнасці сваёй працы, інэртнасць іх мышлення і непадрыхтаванасць да правядзення рэформаў.

У выніку, усе жаданні і размовы аб пераводзе ЖКГ краіны на рынкавыя рэйкі, толькі і засталіся на паперы. А Пастановай Савета Міністраў РБ №97 ад 8 лютага 2013 года **Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №943 ад 14 ліпеня 2003 году "Аб Канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да 2015 года"** была прызнаная страціўшай сілу.

Абслугоўванне жыллёвага фонду на конкурснай аснове - еўрапейская практыка. Значная колькасць жыллёвага фонду краін Еўрасаюзу аб'яднана ў таварыствы ўласнікаў, а канкурэнцыя ў сферы камунальных паслуг на парадак вышэйшая, чым у нашай краіне. У кожным сегменце дзейнічаюць дзясяткі арганізацый і жыхарам толькі прыходзіцца выбіраць найбольш выгадныя тарыфы.

Узаемадачыненні пастаўшчыкоў і спажывальнікаў камунальных паслугаў у еўрапейскіх краінах, цалкам адрозніваюцца ад беларускіх. Тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі і іх павелічэнне ў бальшыні еўрапейскіх краінаў знаходзяцца пад кантролем як дзяржавы, так і рынка, а абслугоўваючыя кампаніі маюць аднолькавыя правы на агульнае карыстанне інфраструктурай разнастайных сетак, пры тым, што ўладальнікам гэтых сетак на заканадаўчым узроўні забаронена займацца пастаўкамі газа, вады, цяпла, электраэнэргіі… Гэта ў сваю чаргу абмяжоўвае з'яўленне манаполіі на аказанне той або іншай паслугі і стрымлівае кошт гэтых паслугаў.

У такім выпадку, калі спажыўца не задавальняе якасць і кошт прадастаўляемых паслуг, ён можа змяніць пастаўшчыка. У краінах Еўрапейскага Саюза пры ўстаноўцы лічыльнікаў на пастаўляемыя газ і электрычнасць прадугледжваецца тэхнічная магчымасць для кожнага спажыўца па выбару таго або іншага пастаўшчыка. Існуючы механізм узаемаадносін пастаўшчыкоў і спажывальнікаў камунальных паслугаў забяспечвае канкурэнцыю, што ў сваю чаргу прыводзіць да паніжэння тарыфаў.

З мэтай кантроля за тарыфамі на ваду, зборамі на абслугоўванне дамоў і прылягаючых тэрыторый, еўрапейскія дзяржавы кожны год прымаюць індэксы максімальных узроўняў коштаў, якія не могуць быць перавышаны пастаўшчыкамі.

У агульным плане палітыка Еўрапейскага Саюза ў сферы камунальных паслугаў скіравана на жорсткі кантроль фінансавых аперацый фірм–пастаўшчыкоў, каб пазбегнуць усялякіх форм карупцыі і крадзяжоў. Любая арганізацыя, прэтэндуючая на пастаўку камунальнай паслугі, абавязана прайсці поўны аўдыт, да вынікаў якога мае доступ для азнаямлення любы спажывец.

У беларускіх жа рэаліях проста адбываецца прыхаванае рабаўніцтва насельніцтва, як праз выстаўленне коштаў у "жыроўках" на аплату камунальных паслугаў, так і праз разнастайныя падаткі ў бюджэт, адкуль фінансавыя сродкі ідуць на пакрыццё розніцы сабекошту паслугаў, што беларускія ўлады яшчэ прыпадносяць як "благоденствие" для народа, выканаўшы пры гэтым простую функцыю неэфектыўнага распараджальніка рэсурсамі, сабраных у грамадзян. У сабекошт камунальных паслугаў уключаецца і аграмадны карупцыйны складнік

Для пазітыўных пераменаў у сферы ЖКГ уладам Беларусі неабходна прыняць тэрміновыя

меры;
-ліквідаваць манапалізм у жыллёвай гаспадарцы шляхам падзялення функцый упраўлення і абслугоўвання жыллёвага фонду, стварыць умовы па забяспечэнні канкурэнцыі паміж арганізацыямі;
-рэфармаваць сістэмы фінансавання бягучага і капітальнага рамонту жыллёвага фонду з залічэннем сродкаў па капітальнаму рамонту на асобныя рахункі з пачатку іх увядзення;
-стварыць ўмовы па забяспячэнню грамадзянам краіны права выбару пастаўшчыкоў камунальных паслугаў;
-праз фонды заработнай платы, сацыяльныя фонды размеркаваць бюджэтныя сродкі,
скіроўваемыя прадпрыемствам ЖКГ, сярод насельніцтва, што дазволіць узняць узровень
пакрыцця насельніцтвам страт за аказаныя жыллёва-камунальныя паслугі да 100%;
-з мэтай стварэння канкурэнцыі ў сферы ЖКГ, на заканадаўчым узроўні забяспечыць роўныя ўмовы для дзейнасці прадпрыемстваў розных форм уласнасці;
-стварыць спрыяльныя ўмовы для дзейнасці грамадзянскіх супольнасцяў па месцы жыхарства, што паспрыяе забяспячэнню празрытасці выкарыстання сродкаў выдзяляемых на абслугоўванне і рамонт жылога фонду;
-з мэтай эфектыўнай эксплуатацыі аб'ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі распрацаваць і ажыццявіць праграму падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў з улікам сусветнага досведу;
-падрыхтаваць праграму скіраваную на правядзенне навукова-тэхнічнай і эканамічнай палітыкі ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы з прыцягненнем да іх рэалізацыі навуковых, навукова-даследчых і акадэмічных устаноў і арганізацый;
-распрацаваць план мерапрыемстваў па прыцягненню інвестыцый, накіраванне бюджэтных сродкаў, прыцягненне сродкаў прадпрыемстваў і насельніцтва ў камунальную гаспадарку з мэтай тэрміновага вырашэння праблемы "хрушчовак", іншых аварыйных дамоў;
-правесці скарачэнне шматлікага чынавенцкага апарату з ліквідацыяй Міністэрства ЖКГ, разнастайных аддзелаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі пры абл.,гар., райвыканкамах, сэканомленныя сродкі выдзеліць на мерапрыемствы скіраваныя на падрыхтоўку і правядзенне рэформаў у сферы ЖКГ;

Без падобных пераменаў агульны стан аб'ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі будзе і надалей толькі пагаршацца, бо дзяржава з кожным годам скарачае бюджэтныя ўліванні ў гэтую сферу. Паніжаецца і эфектыўнасць выкарыстання фінансавых сродкаў паступаючых у ЖКГ з бюджэту і ад насельніцтва краіны.

Дзеля таго, каб неабходнасць пераменаў была станоўча ўспрынята насельніцтвам, дзяржава павінна правесці і шырокую інфармацыйную кампанію, навучыць грамадзян быць сапраўднымі гаспадарамі сваёй уласнасці.

Намеснік старшыні БНФ

*Р.Кастусёў*

В Беларуси **объем производства сельхозпродукции** в хозяйствах всех категорий за январь-сентябрь 2013 года составил Br76,1 трлн. в текущих ценах, что в сопоставимых ценах на 2,2% меньше уровня аналогичного периода 2012 года, говорится в сообщении Национального статистического комитета (Белстат).

## А что там у соседей?

**ГОРКИ. За ряд преступлений бывший председатель Горецкого СПК "Колхоз им.Ленина" проведет в тюрьме 5 лет.**

Судом Шкловского района осужден 35-летний бывший председатель правления Горецкого СПК "Колхоз им.Ленина" за совершение преступления, предусмотренного ч.3 ст.210 УК Республики Беларусь (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное повторно, в крупном размере).

Предприимчивый председатель давал указания работникам бухгалтерии о выписке доверенностей на других работников СПК, после чего, используя эти доверенности, получал в магазинах райпо продукты питания, стройматериалы, сантехническое оборудование, которые присваивал и использовал для личных нужд.

Осужденный также просил подчиненного ему прораба ежедневно проставлять рабочие дни и часы в табелях учета рабочего времени на имя не работавшего в СПК работника, заработную плату и отпускные которого бывший председатель присваивал себе.

В августе 2010 года бывший представитель Горецкого СПК "Колхоз им. Ленина" решил построить себе дом. Он заключил договор с Оршанским заводом железобетонных изделий о поставке для СПК бетонных и железобетонных изделий, а также договор с Горецким унитарным коммунальным предприятием "Тепловая энергетика" на предоставление транспортных услуг по перевозке блоков. Оплата по договорам была произведена за счет средств СПК. Однако приобретенные для

колхоза стройматериалы были использованы для устройства фундамента дома председателя.

Всего нечистый на руку председатель правления СПК совершенными хищениями причинил материальный ущерб колхозу на сумму, равную 565,78 базовым величинам. Приговором суда он признан виновным в совершенном преступлении, и в качестве меры наказания ему назначено лишение свободы сроком на 5 лет с конфискацией имущества, с лишением права занимать должности, связанные с выполнением организационно-распорядительных и административно-хозяйственных функций сроком на 5 лет. Приговор вступил в законную силу 3 сентября 2013 года.

**БЯЛЫНІЧЫ. Жыхара вёскі Лебядзянка В.Вусіка абвінавацілі ў паклёпе і распаўсюдзе незарэгістраванай прэсы. Сёлета ў лютым пенсіянер напісаў для незалежнай газеты "Магілёўскі выбар" артыкул, у якім распавядаў пра махлярствы і злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, а таксама выпадкі карупцыі і адсутнасць дысцыпліны ў мясцовай гаспадарцы.**

Артыкул называўся "Што змянілася за апошнія некалькі гадоў у СВК "Лебядзянка". Гэта і выклікала негатыўную рэакцыю мясцовых чыноўнікаў, распавядае **Валерый Вусік**: *"Усё пачалося з таго, як я апублікаваў артыкул у газеце "Магілёўскі выбар" пра тое, што творыцца ў СВК "Лебядзянка". Пасля гэтага з боку старшыні СВК пачаўся пераслед. Ён напісаў на мяне хлуслівую заяву ў міліцыю, пасля чаго на мяне былі складзены тры пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні за паклёп і распаўсюд незарэгістраванай газеты. Потым былі суды. Мне адмовілі ў адвакаце, у сведках. У судзе перабівалі і не давалі сказаць слова. З боку ж Бялова былі тры сведкі, якія давалі супраць мяне хлуслівыя паказанні"*.Старшыня Бялыніцкага суда **Уладзімір Гуз** аштрафаваў вяскоўца на 5 мільёнаў рублёў. Два мільёны былі прысуджаны за распаўсюд незарэгістраванай прэсы і тры — за паклёп. Магілёўскі абласны суд пакінуў вырак у сіле, прызнаўшы яго законным, а вось старшыня абласнога суда Ігар Прошка адмяніў рашэнні гэтых судоў і вярнуў справу ў Бялыніцкі раён на новы разгляд з іншай суддзёй. Суддзя **Аксана Загорская** цалкам апраўдала актывіста і прыпыніла ўсе заведзеныя на яго справы. Скаргу ў міліцыю на пенсіянера пісаў таксама пляменнік кіраўніка СВК. Пажылога вяскоўца абвінавачвалі ў тым, што ён хацеў пабіць 30-гадовага хлопца. Аднак інцыдэнт, які адбыўся паміж вяскоўцамі, быў зняты на відэакамеру магілёўскіх журналістаў, а запіс прадастаўлены ў судзе. Па яго выніках дзве заведзеныя адміністрацыйныя справы былі прыпынены.У выніку супрацьстаяння старшыня Бялыніцкага суда Уладзімір Гуз застаўся без працы, а старшыню СВК "Лебядзянка" **Пятра Бялова** панізілі да ўзроўню намесніка старшыні, ягоны пляменнік атрымаў штраф за паклёп, а на брата завялі крымінальную справу за прыпіскі.Жыхар вёскі Лебядзянка Валерый Вусік цалкам задаволены такім паваротам справаў. Актывіст адзначае, што яму дапамаглі магілёўскія праваабаронцы, незалежныя журналісты і грамадскія актывісты, а таксама скаргі ў дзяржаўныя органы.

*"Цалкам задаволены выракам суда. Суддзя трапілася сумленная і справядлівая, якая судзіла паводле закону. Я буду падаваць позвы на кампенсацыю маральных і матэрыяльных стратаў, бо мяне, амаль 70-гадовага пенсіянера, на працягу паўгода прыніжалі і здзекаваліся з мяне. Буду пісаць заявы на сведкаў, якія ў судзе давалі супраць мяне хлуслівыя паказанні, на суддзяў, якія судзілі, карыстаючыся асабістымі эмоцыямі, а не законам, а таксама на міліцыянтаў, якія па разнарадцы складалі на мяне нічым не абгрунтаваныя адміністрацыйныя пратаколы"*, — гаворыць Валерый Вусік.

З інтэрнэт-крыніцамі працаваў

*І.Мігаеў*

## Мы уже забыли, а Литва получила указание уничтожать свиней на границе с Беларусью

**Литва, опасаясь свирепствующей в Беларуси африканской чумы свиней, начинает уничтожать этих животных: все жители, проживающие на расстоянии 10 километров от литовско-белорусской границы, должны будут уничтожить свиней.**

Глава Ветеринарно-пищевой службы Йонас Милюс подписал указ, в котором указал, что до 1 декабря свиней должны уничтожить все жители приграничных районов.*"Сейчас Министерство сельского хозяйства готовит механизм компенсации. Мы ждем, когда этот процесс завершится"*, - сказал BNS Милюс.

Как сообщалось ранее, уничтожение свиней может обойтись почти в 10 млн литов, 30% расходов покроет Еврокомиссия, представители которой в октябре намерены проверить, как Литва реализует меры безопасности.

news.tut.by/society/370599.html

## Вице-премьер сообщил журналистам страшные новости

**Первый вице-премьер Владимир Семашко прогнозирует, что льготные цены на российские нефть и газ для Беларуси закончатся в ближайшие несколько лет.** Об этом он заявил 16 октября на Белорусском энергетическом и экологическом конгрессе в Минске. Первый вице-премьер подчеркнул, что следует работать над повышением энергосбережения и энергоэффективности белорусской экономики. По его словам, благодаря президенту и подписанным соглашениям в рамках Таможенного союза в 2010 году, у страны появилась возможность покупать энергоресурсы по ценам в несколько раз ниже, чем покупают другие. *"Но газовая и нефтяная пауза рано или поздно закончится"*, - заявил Семашко. По его словам, *"у нас 4-5 лет впереди, чтобы прийти к европейским, мировым ценам [на углеводороды]"*. Первый вице-премьер напомнил, что Беларусь в рамках соглашений по Таможенному союзу получает нефть беспошлинно. *"Например, при мировой цене 800 долларов за тонну мы платим 380 долларов, когда импортируем нефть. Но так долго продолжаться не будет"*, - сказал **Семашко**. По его словам, сейчас власти России активно обсуждают варианты пересмотра формулы цены нефти, вариант начисления таможенных пошлин и налога на добычу полезных ископаемых и формулу. То есть цена на импортирование российской нефти будет увеличиваться. Аналогичная история, по словам Семашко, обстоит и с природным газом, за который Беларусь сейчас платит 165 долларов за кубометр, в то время как Украина - более 400 долларов. Правительственный чиновник напомнил, что ранее Россия заявляла о переходе на принцип равнодоходности в ценах на газ с 1 января 2015 года, однако в последние 3-4 месяца в РФ заявляют о намерении затормозить этот процесс. Семашко обратил внимание, что в России постепенно истощаются те месторождения газа, которые эксплуатирует "Газпром". Для освоения новых месторождений требуется вложить 150-180 млрд долларов за 5-6 лет. *"То есть ежегодно надо вкладывать 25-30 миллиардов. При том, что сегодня "Газпром" может позволить инвестировать 8-10 миллиардов. Только треть добываемого газа российская компания продает на внешних рынках. Пусть и с хорошей рентабельностью. Но поставки на внутренний рынок если не убыточны, то несут нулевую рентабельность. Поэтому надо повышать внутренние цены, аккумулировать прибыль и вкладывать ее в развитие"*, - сказал Семашко. Он прогнозирует, что *"в 2018-2019 годах Россия придет к равнодоходным ценам, им деваться уже некуда"*.

http://udf.by/news/economic/88297-vice-premer-soobschil-zhurnalistam-strashnye-novosti.html

## 13% россиян плохо относятся к Беларуси

**Такие результаты дал соцопрос аналитического центра Юрия Левады.** Только 14% россиян «очень хорошо» относятся сейчас к Беларуси (в декабре 1999 года этот показатель равнялся 27%). Еще 67% респондентов ответили на поставленный вопрос «в основном хорошо». "В основном плохо» к нашей стране относятся 11%, еще 2% - «очень плохо». 7% опрошенных затруднились ответить на поставленный вопрос. Аналитический центр **Юрия Левады** провел опрос 20-24 сентября 2013 года по репрезентативной всероссийской выборке городского и сельского населения среди 1601 человека в возрасте 18 лет и старше в 130 населенных пунктах 45 регионов страны.

## Лукашенко: разберемся со строительством – возьмемся за сельское хозяйство

Эффективность хозяйствования в аграрном секторе подвергнут «детальному изучению». Об этом правитель заявил 22 октября, давая согласие на назначение руководителей местных исполнительных органов, сообщает БелТА.

*«Закончит работать комиссия по строительству, которую возглавляет глава администрации президента, мы перейдем к сельскому хозяйству. И притом возьмемся сильнейшим образом. Мы больше 50 млрд. долларов за две с половиной пятилетки вложили в сельское хозяйство. Это годовой ВВП. Поэтому думайте о том, как сделать так, чтобы была отдача*, — отметил он. — *И мы будем неожиданно приезжать (думаю, мы в Витебске проведем совещание по этим вопросам) в любое хозяйство: покажите агрогородок, машинный двор, покажите зерноток, фермы, по которым вы отчитались,как другие фермы содержатся. У нас нехорошая тенденция: все сидят и ждут, что, вот, завтра будем в плане по модернизации той или иной фермы, получим кредиты,*

*что-то дадут, что-то привезут. Никто ничего не даст»*.

По его словам, как только появляется новый молочно-товарный комплекс, сразу меняется облик не только земли, но и людей, которые работают в конкретном хозяйстве. Кроме того, современные крупные фермы позволяют решить проблему дефицита кадров, так как для их обслуживания надо меньшее количество работников.

*«Вот вам, пожалуйста, выбор, конкуренция*, - заметил белорусский правитель. - *Поэтому думайте о том, как будете жить, обеспечивать тот высокий уровень, который должен быть в каждом районном центре. За это будет жесточайший спрос. Председатели райисполкомов, руководители администраций в городах не задействованы на всю катушку в решении социально-экономических и идеологических проблем в стране. Это мое твердое убеждение. Вы должны быть моторами. Все должно быть красиво, достойно, чисто, чтобы человек шел и гордился тем, что живет в этом населенном пункте. Это ваша забота. Без всякого чванства, нормальное и человеческое отношение к людям. Вот ваша главная задача»*.

http://charter97.org/ru/news/2013/10/22/78194/

P.S. И разбираться есть с чем. Вашему вниманию предоставляется подборка фотографий, сделанных в течение 2012-2013 годов нашими читателями и корреспондентами на территории Шкловского района. Мы сознательно не указываем хозяйства, где творятся эти безобразия - в этом просто нет смысла. Безответственность местной власти идеологией не закамуфлируешь - работать нужно.

# XXI век: практика хозяйствования

Сначала пронырливые работники современного молочно-товарного комплекса почему-то вывезли в лес голову погибшего животного. Туша на обозримой территории отсутствовала. Вот и подумай, куда могла исчезнуть самая привлекательная часть животного.



Постепенно уютная поляна заполнялась растерзанными телами животных, привлекая к себе диких животных и бесхозных собак.



Трупов стало столько, что автор фото решил показать только говяжьи головы.



И тогда руководством комплекса принимается решение выкопать яму и зарыть свои грехи в землю.



Но так торопились, что один труп забыли прикопать и пришлось его бросить на поверхности.



_ А как дела с эффективным использованием земли? Пожалуйста, на сельхозугодии уютно разместилась мусорная свалка.



Не помогает критика, наказания - с одной стороны, мусор куда-то девать нужно, с другой - властям не досуг такими мелочами заниматься.

Тем более, что масштабы бесхозяйственности в виде незасеенных площадей измеряется в районе сотнями гектаров.



Эта площадь "пррогуляла" год , но, хотябы, засеяна озимыми культурами. Впрочем, 30 га, засеянные кукурузой, могли бы дать минимум 1000 тонн зеленой массы для содержания скота на том же горемычном комплексе.

На нижнем фото мы видим полевую дорогу одного из шкловских СПК, уходящую "в даль" среди многолетних сорняков



Удивительная вещь - до международной трассы не более километра, а запущенность долгоиграющего характера. Понятное дело, местному руководству при тотальной бесконтрольности со стороны районных начальников, можно особенно не суетиться с поддержанием порядка на земле - источники финансирования для благополучного пребывания в должностях определены, нагрузка животных на сельскохозяйственные угодия не в пример советским временам - минимальна. Что еще нужно, чтобы временно не побывать в директорском кресле?

Следующее фото сделано уже в полукилометре от трассы.



Раньше, если не изменяет память, это поле гектаров в 40 засевалось кукурузой (многие шкловчане об этом помнят), а сегодня отдано в плен злостных сорняков, с которыми еще придется более рачительным хозяевам побороться.

Так что уважаемый Александр Григорьевич прав, что решил предъявить закономерные претензии к горе-хозяйственникам, бездарно разбазаривающим народные деньги. И не удивительно всем будет, если наводить порядок на земле и фермах он начнет с родного Шкловского района. А то местные начальнички видимо не в курсе, что 20% продовольствия Республика Беларусь закупает за рубежом и за твердую валюту. Да-да, закупаем мясные и молочные продукты, картофель, морковь, капусту, огурцы и помидоры, яблоки и груши, почти весь ассортимент ягод. Так что еще все впереди в жизни страны и района.

*А.Стекловский*

## Пенсионеры о повышении пенсий: «Это же курам на смех»

В Беларуси с 1 ноября повышены пенсии. Соответствующий указ Лукашенко подписал 21 октября. В результате трудовые пенсии граждан увеличились в среднем на 5,1%. Как к такому повышению относятся сами пенсионеры, если средний размер пенсии в настоящее время составляет 2 миллиона 200 тысяч рублей.

По мнению экономиста, профессора **Бориса Желибы**, в целом пенсионный уровень в Беларуси очень низкий. *«Мы уступаем всем соседям: России, странам Балтии, не говоря уже о западных странах. У нас инфляция 15 % в годовом исчислении. Так что такое повышение не компенсирует инфляции»*, - отмечает эксперт. Пенсионерка **Валентина Семеновна** отмечает, что с октября прошлого года до сентября 2013 году целый год повышения пенсий не было. Что касается обещанного повышения в ноябре, женщина говорит:

*«Это же курам на смех! С января до сентября не поднимал, а тут аж на 5%. Уж лучше бы не позорился наш Александр Григорьевич! Цены постоянно повышаются. Сколько добавят? 100 тысяч? Ну что на них можно купить?*

http://charter97.org/ru/news/2013/10/22/78199/

Рэдактар П.С.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618; 8 0298 499670
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 14.10.2013